

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№17 (326) ЛІСТАПАД 2022 ГОД


МЯСЦОВАЯ УЛАДА

## СУСТРЭЧА ЎЛАДЫ З МОЛАДДЗЮ

**На днях у райцэнтры прайшла сустрэча маладых спецыялістаў з кіраўніцтвам Шумілінскага раёна.**




Як вядома, у гэтым годзе пасля заканчэння вышэйшых, сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў кадры Шуміліншчыны ўпершыню папоўнілі 72 маладыя спецыялісты. Менавіта з гэтай нагоды адбылася сустрэча кіраўніцтва раёна з моладдзю.

Перадусім у фае раённага цэнтра культуры маладых спецыялістаў сустрэў «Грошык» ад Беларусбанка. Работнікі банка распявялі пра льготныя крэдыты, іншыя банкаўскія прадукты, якія прапануе Беларусбанк моладзі.

Затым для маладых работнікаў былі арганізаваны экскурсіі па вытворчых і сацыяльных аб'ектах райцэнтра. Моладзь найперш наведала вытворчы цэх ААТ «Полацкі малочны камбінат» і пазнаёмілася з працэсам вырабу сыроў. Сярэдняя школа № 1 горпасёлка Шуміліна дазволіла зазірнуць у «школу будучыні». На тэрыторыі жыллёва-камунальнай гаспадаркі маладыя наведалі мадэрнізаваную кацельню, зазірнулі ва ўстанову культуры – абноўлены гісторыка-краязнаўчы музей, пабывалі ў фізкультурна-аздараўленчым цэнтры.

На сустрэчы з маладымі спецыялістамі прысутнічалі: намеснікі старшыні райвыканкама Уладзімір Пушноў, Ірына Шалахава, Святлана Цімашэнка, Руслан Насцюшкін, кіраўнікі раённых прафсаюзных і грамадскіх арганізацый.

Першай брала слова намеснік старшыні райвыканкама Ірына Шалахава, якая пажадала маладым людзям плённай працы і адзначыла тую падтрымку, якую дзяржава аказвае моладзі. Дарэчы, у перспектыўны кадравы рэзерв райвыканкама ўваходзіць 21 спецыяліст ва ўзросце да 31 года, гэта будучыя кіраўнікі прадпрыемстваў Шуміліншчыны, адзначыла намеснік. Быў зварот намесніка старшыні райвыканкама да кіраўнікоў арганізацый. Яна прасіла не пакідаць моладзь сам-насам з праблемамі, падтрымліваць маладых спецыялістаў і дапамагаць набірацца вопыту. Бо ад гэтага залежаць адносіны ў калектыве, якія ў рэшце рэшт з'яўляюцца вырашальнымі, ці застанецца або не малады спецыяліст у раёне.

У сваю чаргу маладыя спецыялісты выступілі ў арыгінальным творчым фармаце. Пры гэтым у вершаванай форме Раман Пузікаў з ДРБУ-204, Андрэй Нячай з УП ЖКГ, Алена Лысанава з ЦРБ, Сяргей Блыкін з лясгаса і Кацярына Васілеўская з ясляў-сада № 4 расказалі пра тое, як іх сустрэлі ў арганізацыях, дапамагалі наладзіць быт і рабіць першыя крокі ў прафесіі. Яны і ўручылі сімвалічнае дрэва маладосці першаму намесніку старшыні райвыканкама Уладзіміру Пушнову.

Напрыканцы мерапрыемства прайшоў інтэлектуальна-музычны турнір «Планета пад назвай Маладосць».

Як кажуць, статыстыка ведае ўсе. Крыху лічбаў.

Напярэдадні сустрэчы было праведзена ананімнае анкетаванне 57 маладых спецыялістаў. Прапануем некаторыя лічбы з аналізу анкет.

60% апытаных падабаецца Шумілінішчына, але пры гэтым 42% нарадзіліся і выраслі тут.

Сваю прафесійную падрыхтоўку на выдатна ацанілі 8 чалавек, як добрую — 18, як сярэднюю, нармальную — 28, нездавальняючую адзнаку выставілі свайму ўзроўню падрыхтоўкі 3 спецыялісты.

35% маладых спецыялістаў атрымліваюць зарплату на ўзроўні 500-600 рублёў, 39% — 700-850 рублёў, 12% зарабляюць больш за 1000 рублёў, 14% не назвалі свой заробак.

Пахваліліся ўласным жыллём 9%, больш за чвэрць (26%) жывуць з бацькамі, службовую кватэру ці дом атрымалі 25%, 21% жыве ў інтэрнаце, 19% здымаюць жыллё. Пры гэтым 19% апытаных атрымліваюць кампенсацыю за знятае жыллё.

Настаўнікі замацаваныя за 80% маладых спецыялістаў, яны дапамагаюць асвойваць прафесію.

Плануе застацца пасля адпрацоўкі ў сваёй арганізацыі кожны трэці (29%). Пры гэтым катэгарычна не збіраюцца працаваць у раёне 25% апытаных. Асноўнымі прычынамі адказу яны называюць нізкі ўзровень зарплаты (6 чалавек), абмежаваныя магчымасці для правядзення вольнага часу (7) ці рэалізацыі творчых здольнасцей (4), жыллёвыя праблемы (4).

**Алесь Шумскі**

---

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

---

АДУКАЦЫЯ

## РАЗВІЦЦЁ ПРАЗ ІНАВАЦЫІ

**Днямі ў Шуміліне адбыўся абласны семінар па інавацыйных тэндэнцыях сістэмы адукацыі.**

Перад гэтым інавацыйныя тэндэнцыі ў сістэме адукацыі Шумілінскага раёна вывучаліся 17 лістапада на абласным семінары для намеснікаў начальнікаў і галоўных спецыялістаў аддзелаў па адукацыі ў выканкамах Віцебскай вобласці.

Удзельнікаў семінара ў першай сярэдняй школе горпасёлка Шуміліна віталі: намеснік старшыні райвыканкама Ірына Шалахава і начальнік аддзела па адукацыі райвыканкама Валянціна Мянькова. Чыноўніцы пазнаёмілі прысутных з сацыяльнай сферай Шумілінішчыны, а таксама пра асаблівасці развіцця ўстаноў адукацыі і адукацыйнай галіны.

Асноўную тэму семінара ўдзельнікам распавяла намеснік начальніка аддзела па адукацыі Іна Чарнічэнка. Як правіла, развіццё сучаснай адукацыі немагчыма без укаранення новых метадаў і формаў работы, сучасных тэхналогій. Таму сучасныя установы адукацыі раёна актыўна працуюць над рознапланавымі інавацыйнымі праектамі навучання і выхавання дзяцей. Як праінфармавала дакладчык, сёння ва ўсіх дзіцячых садах і школах раёна рэалізуюцца 10 раённых, 8 абласных, 1 рэспубліканскі і 1 міжрэгіянальны праекты. Пры ўсім тым гэта працэс, безумоўна, ідзе непарыўна. Нават калі заканчваецца рэалізацыя аднаго праекта, адразу пачынаецца работа над новымі інавацыямі. Бо гэтага ўзроўню патрабуе час. Рэалізацыя інавацый выходзіць і на міжнародны ўзровень. Так, СШ №2 імя А. І. Дубасарскага ўдзельнічае ў беларуска-расійскім інавацыйным праекце.

Падчас практычнай часткі семінара яго ўдзельнікі пазнаёміліся з буйнейшай школай раёна – Шумілінскай СШ №1: наведалі заняткі па робататэхніцы, вывучылі работу інфармацыйна-бібліятэчнага цэнтра, даведаліся пра выкарыстанне сучаснага абсталявання ў рабоце педагогаў-дэфектолагаў.

Падчас семінара з удзелам начальніка аддзелаагульнаадукацыйнайпадрыхтоўкі Галоўнага ўпраўлення па адукацыі Віцебскага аблвыканкама Уладзіміра Беднякова было разгледжана пытанне аб ліцэнзаванні ўстаноў адукацыі, якое прайшло у рэжыме відэаканферэнцыі са спецыялістамі Дэпартамента кантролю якасці Міністэрства адукацыі.

**Алесь Шумскі**

АФІЦЫЙНА

## ВІЗІТ БІСКУПА НА ШУМІЛІНШЧЫНУ

**Шумілінскі раён наведаў вікарый Віцебскай дыяцэзіі, біскуп Друцкі Яўсевій.**

Каля дзвярэй храме Святога Мікалая Цудатворца ўладыку сустракалі святары Шумілінскага благачыння, прыхаджане храма. Вучні і выкладчыкі нядзельнай школы віталі біскупа вершамі, паднеслі яму букет з белых руж і гербер і традыцыйны каравай. Уладыка Яўсевій падзякаваў і благаславіў прысутных.

У храме вікарыя Віцебскай дыяцэзіі вітаў шумілінскі благачынны протаіерэй Фёдарам Пучынскі, які адзначыў, што гэта першае наведванне новапабудаванага храма на такім высокім узроўні, свята для ўсіх святароў і прыхаджан храма.

Біскуп Друцкі вікарый Віцебскай дыяцэзіі Яўсевій правёў святочную Боскую літургію ў саслужэнні святароў Шумілінскага благачыння.

Наша даведка.

Яўсевій, біскуп Друцкі, вікарый Віцебскай дыяцэзіі (у свеце Цюхлоў Канстанцін Дзмітрыевіч)

Нарадзіўся 26 сакавіка 1975 г. у горадзе Жодзіна Мінскай вобласці ў праваслаўнай сям'і. У 1976 г. ахрышчаны ў храме Уваскрэшання Хрыстова ў г. Барысаве.

У 1991 г. скончыў сярэднюю школу № 6 г. Жодзіна і паступіў у Смілавіцкі саўгас-тэхнікум па спецыяльнасці тэхнік-пчаляр. У 1994 г. атрымаў дыплом з адзнакай. У 1994 г. прызваны ў рады Узброеных сіл на тэрміновую службу. Праходзіў службу ў г. Барысаве, у 1995 г. звольнены ў запас.

У 1996—2001 гг. навучаўся ў Мінскай духоўнай семінарыі.

У 1997 г. уступіў у лік брацііі Успенскага Жыровіцкага стаўрапігіяльнага мужчынскага манастыра ў якасці паслушніка. Нес паслухмянасць на манастырскім пчальніку ў якасці пчаляра. У 1999 г. прыняў манаскі постырг з імем Яўсевій у гонар свяшчэннамучаніка Яўсевія, біскупа Самасацкага.

У 1999 г. біскупам Гурыем хіратанісан у іерадыякана, у 2001 г. — у іераманаха. У 2006 г. быў келарам Жыровіцкага манастыра.

З 2007 г. нёс паслухмянасць па адраджэнні Елісееўскага Лаўрышаўскага мужчынскага манастыра. У 2009 г.

*(працяг на стар. 2)*

АФІЦЫЙНА

*(пачатак на стар. 1)* рашэннем Сінода Беларускага экзархата прызначаны на пасаду намесніка абіцелі.

У 2014 г. па блаславенні мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла паступіў у магістратуру Мінскай духоўнай акадэміі, якую скончыў у 2017 г. па спецыяльнасці «Багаслоўе», спецыялізацыя «Царкоўная гісторыя», з прысваеннем ступені магістра багаслоўя.

З 2016 г. выконваў дыяцэзіяльныя паслухмянасці на пасадах благачыннага манастыроў, члена Епархіяльнай рады і намесніка старшыні архітэктурнага аддзела Навагрудскай епархіі.

Рашэннем Свяшчэннага Сінода ад 27 мая 2022 г. абраны Праасвяшчэнным Слуцкім і Салігорскім.

30 мая 2022 г. у Свята-Духавым кафедральным саборы г. Мінска мітрапалітам Мінскім і Заслаўскім Веніямінам узведзены ў сан архімандрыта.

Названы ў біскупа 1 чэрвеня 2022 г. у Троннай зале Храма Хрыста Збавіцеля ў Маскве. Хіратанісан 5 чэрвеня 2022 г. за Літургіяй у Крыжаўзвіжанскім саборы Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра горада Полацка. Набажэнствы ўзначаліў Найсвяцейшы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл.

13 кастрычніка 2022 года рашэннем Свяшчэннага Сінода назначаны Праасвяшчэнным Друцкім, вікарыем Віцебскай дыяцэзіі.

**"Герой працы"**

ВАЛАНЦЁРСКІ РУХ

# ПАДАРУНКІ АД ЧЫРВОНАГА КРЫЖА

**Вельмі неабходныя падарункі прывезлі прадстаўнікі абласнога чырвонага Крыжа ў Шумілінскую раённую бальніцу.**




9 лістапада адбылася приемая падзея для Шумілінскай цэнтральнай раённай бальніцы – установу наведала старшыня Віцебскай абласной арганізацыі Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа Галіна Жэланава. Візіт на Шуміліншчыну быў запланавана ў рамках рэалізацыі сумеснага пілотнага праекта «Вакцынацыя супраць COVID».

Паводле Галіна Жэланавай, падчас эпідэміі каранавірусу арганізацыя дапамагала раёну ў дастаўцы грамадзян 60+ да месцаў вакцынацыі, апроч таго, праектам было прадугледжана аказанне лячэбным установам дапамогі ў набыцці рэабілітацыйных сродкаў. Пры гэтым на працягу гэтага года было закуплена для Шумілінскай цэнтральнай раённай бальніцы дзве інвалідныя каляскі, якія і даставілі.

Надалей Галіна Жэланава сустрэлася з калектывам райбальніцы, распавяла пра дзейнасць Чырвонага Крыжа, рэалізуемы сумесны праект, работу з бежанцамі з Украіны. Напрыканцы сустрэчы старшыня абласной арганізацыі Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа шчыра падзякавала шумілінскім медыкам за работу, падтрымку, за ўсё тое, што яны робяць для сваіх землякоў-пацыентаў і паабяцала надалей трымаць цесную сувязь з раёнам і аказваць пасільную дапамогу.

**Ян Вайтовіч**

АРЭНДА

# ЯК АТРЫМАЦЬ АРЭНДНАЕ ЖЫЛЛЁ

**Як вядома, арэнднае жыллё ў Шуміліне заўсёды карыстаецца попытам. Па інфармацыі намесніка начальніка аддзела архітэктуры і будаўніцтва, жыллёва-камунальнай гаспадаркі райвыканкама Ірыны Карпавай, з пачатку бягучага года ў арэнду было здадзена 29 кватэр.**

Цяпер каб атрымаць даведку пра арэнднае жыллё, грамадзянам неабходна перыядычна заходзіць на сайт Шумілінскага райвыканкама (http://shumilino.vitebsk-region.gov.by/ru/) у раздзел „Арэнднае жыллё". Пасля такго, як толькі ў раздзеле з'явілася кватэра у патрэбным жыхарам мікрараёне, неабходна прыйсці ў „Адно акно" райвыканкама. Тут спецыялісты пакажуць зацікаўленым асобам стан кватэры, і калі ён іх задаваліць, трэба будзе напісаць заяву на атрыманне жылля. Пасля гэтага, як міне 15 дзён з моманту выстаўлення кватэры, грамадзянам выдадуць канчатковае рашэнне.

Як пацвердзіла практыка, на адну арэндную кватэру звычайна прэтэндуюць 1-2 чалавекі. Паводле Ірыны Карпавай, зараз перавага аддаецца таму заяўніку, які стаіць на ўліку на паляпшэнне жыллёвых умоў.

Цяпер арэнднае жыллё на сайце з'яўляецца перыядычна, і яно можа быць у любым мікрараёне Шуміліна, розныя плошчы. Звычайна выстаўляюцца адна-дзве кватэры, хаця летась, калі здалі новы дом на гэтак званым мікрараёне "Брыкет", выставілі каля 20. Але кожная знайшла свайго гаспадара – прычым у першую чаргу разышліся аднапакаёўкі».

Аналагічная працэдура атрымання арэнднага жылля і на сяле. Толькі ў гэтым выпадку жыхарам трэба будзе звяртацца ў мясцовы сельвыканкам. Па апошніх даных, на раніцу 21 лістапада на сайце прапаноўваліся тры варыянты арэнднага жылля.

**У. Амбросаў**

КРАДЗЯЖЫ

## ЗНІК КАШАЛЁК

У Шумілінскі РАУС звярнулася жыхарка вёскі Ляжні, у якой невядомая асоба ў гандлёвай зале магазіна «Еўраопт» украла кашалёк.

Ён быў пакінуты без нагляду ля адной з ячэек камеры захоўвання. Па словах пацярпелай, у кашальку знаходзілася 320 рублёў. Злачынца вышукваецца.

Узбуджана крымінальная справа, за крадзеж ліхадзею пагражае пазбаўленне волі да трох гадоў.

## ПАРВАЛА ДАКУМЕНТ

Да адной жыхаркі райцэнтра, якая раней здзейсніла крадзеж, супрацоўнікі міліцыі прыйшлі з вобыскам. Аднак жанчына на вачах у міліцыянераў узяла ды парвала пастанову пра вобыск. Максімальнае пакаранне, што пагражае жанчыне за такое наўмыснае знішчэнне афіцыйных дакументаў, – ужо цягне за сабой пазбаўленне волі да двух гадоў.

**Сяржук Крупскі па зводках УУС**

КРЫМІНАЛ

# АБАВЯЗАНУЮ МОГУЦЬ ПАЗБАВІЦЬ ВОЛ

**Надоечы следчыя раённага аддзела Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь узбудзілі крымінальную справу ў адносінах да 44-гадовай грамадзянкі Н., якая, будучы абавязанай асобай, здзяйсняла шматлікія прагулы.**

Паводле старшага следчага раённага аддзела Кацярыны Каяновіч, "жанчыну пазбавілі бацькоўскіх правоў у 2011 годзе. Пры гэтым тыя сродкі, якія выдаткоўвала дзяржава на ўтрыманне дзіцяці, яна практычна не выплачвала. Менавіта таму з кожным годам сума доўгу станавілася ўсё большай. На сёння яна дасягнула болей, чым на 15 тысяч беларускіх рублёў. Пакуль ужо і дачка паўналетняй зрабілася. Аднак грамадзянка Н. будзе абавязанай асобай да таго часу, пакуль поўнасцю не кампенсуе сродкі".

Яквысветлілася, да таго ж грамадзянка Н. – яшчэ і неаднаразова судзімая. Бадай што, усе гэтыя крымінальныя справы ў раёне падобныя, адзначае Кацярына Каяновіч. Да прыкладу, жанчыну ўладкавалі на працу ў адно з сельгаспрадпрыемстваў раёна. Але ж і там яна здзейсніла шматлікія прагулы, прычына якіх – празмернае ўжыванне спіртных напіткаў. Як правіла, падчас запояў, які можа цягнуцца і да двух тыдняў, жанчына хаваецца ад праваахоўных органаў.

І гэта яшчэ не ўсё. Затым жанчыну пасля адбыцця чарговага прысуду зноў працаўладкавалі, у мясцовае сельгаспрадпрыемства. Толькі вось працаваць яна зусім не мела жадання. Так, да напрыкладу, у траўні ў яе было толькі пяць працоўных дзён, а у чэрвені – толькі чатыры. У ходзе расследавання крымінальнай справы жанчына так і не растлумачыла шумілінскім следчым прычыну сваіх шматлікіх прагулаў. Дарэчы, у 2020 годзе Н. была накіравана ў лячэбна-працоўны прафілакторый, але і гэта ўстанова не прымусіла жанчыну адмовіцца ад спіртнога.

Зараз следства працягваецца, устанаўліваюцца яго новыя падрабязнасці. Аднак на гэты раз жанчыне пагражае рэальны тэрмін: згодна з заканадаўствам яна можна пазбавіцца волі на тэрмін да двух год.

**Сяржук Крупскі па зводках УУС**

# ЗНЯВАГІ І ПАКЛЁП У САЦСЕТКАХ

**У цяперашні час нямала нашых шумілінскіх землякоў прызвычаіліся свае эмоцыі, асабліва адмоўныя – выкладаць у сацыяльных сетках. Праўда і тое, што нярэдка людзі прыпісваюць іншым асобаў тое, чаго яны не рабілі на самай справе. Пры гэтым абсалютна не задумваюцца, што за падобныя плёткі існуе як адміністратыўная, так і крымінальная адказнасць.**

Да прыкладу, адна шумілінская спадарыня размясціла ў сацыяльнай сетцы Укантакце допіс пра тое, як жыхар нашага раёна нібыта "груба з ёй размаўляў і паводзіў сябе некарэктна". Аднак у далейшым высветлілася, што насамрэч аніякай грубасці зафіксавана не было. Гэту інфармацыю затым пацвердзілі многія работнікі аднаго прадпрыемства, якія былі сведкамі размовы. У сваю супрацоўнікі шумілінскага РАУС выявілі УКантакце паклёп і нават збіраліся завесці супраць рэальную крымінальную справу супраць той спадарыні, якая распаўсюдзіла непраўдівыя звесткі. Аднак, на яе шчасце, справа зрушылася да лепшага. Пацярпелы ад паклёпу спадар паводзіў сябе як сапраўдны джэнтльмен. Ён даведаўся, што жанчына мае непаўналетніх дзяцей, а пакаранне за паклёп цягне за сабой немалыя штрафы. Менавіта таму спадар дараваў не ў меру эмацыйнай жанчыне яе плёткі, і напісаў да міліцыі заяву, што не мае да яе ніякіх прэтэнзій.

Што пагражала за паклёп?

Паводле старшага ўчастковага інспектара аддзялення аховы правапарадку і прафілактыкі РАУС Дзмітрыя Зубарава: "супраць жанчыны была б узбуджана крымінальная справа па арт. 188. Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь "Паклёп". За гэта пагражае штраф, папраўчыя работы да двух гадоў, арышт, абмежаванне волі да трох гадоў або пазбаўленне волі на той жа тэрмін. Па ўсяму бачна, што адказнасць за "доўгі язык" – занадта суровая. Таму з даўніх часоў нездарма кажуць, што "маўчанне – золата"

Нядаўна яшчэ адзін скандал разбіралі работнікі міліцыі. Перадусім адна сямейная пара развялася. Але ж пасля таго, як шлюб быў скасаваны – былы муж не супакоіўся, не прыдумаў нічога лепшага, як абражаць ужо былую жонку і сецібе. Пры гэтым напісаныя ў зняважлівай форме словы ў адкрытым доступе прачыталі многія знаёмым у сацыяльнай сетцы ў УКантакце.

Жанчына вымушана была напісаць заяву ў міліцыю, па дадзеным факце праводзілася праверка – усе факты пацвердзіліся. На мужчыну склалі адміністрацыйны пратакол па арт. 10.2 КаАП Рэспублікі Беларусь "Зневажанне". Цяпер былому мужу за яго "гарачы допіс" пагражае штраф да 30 БВ.

Усе прыклады з рэальнага жыцця вучаць, што перш чым узяцца за пяро ў сеціве, трэба моцна падумаць і вывучыць законы дзяржавы, якія б яны не былі.

**Сяржук Крупскі па зводках РАУС**

РАСІЯ - БЕЛАРУСЬ

# О НОВОЙ РЕАЛЬНОСТИ ДЛЯ РОССИИ И ЕЕ СОЮЗНИКОВ

**Политический обозреватель Александр Фридман рассказал Филину о новой реальности для России и ее союзников: «Если официальный Минск продолжит участвовать в военных авантюрах Москвы, то недалек тот час, когда и Беларусь заполучит статус государства-террориста».**



*— Накануне Парламентская ассамблея НАТО признала Россию страной-террористом. Сегодня Европарламент большинством голосов принял резолюцию о признании РФ государством-спонсором терроризма. Что это означает для Кремля на практике — в экономическом и военно-политическом измерении?*

— Я думаю, что пока речь идет о достаточно символических шагах. Но, безусловно, крайне неприятных для России. Ведь одно дело, когда тебя признают агрессором, и другое, когда ситуация выходит на новый уровень. Когда тебя фактически ставят на один уровень с группировкой ХАМАС, Хезболлой или Талибаном. Для России это очень неприятный момент.

Что касается конкретных последствий, то здесь нужно смотреть, какие решения будут приниматься на уровне национальных правительств, на уровне ЕС и США.

И, конечно же, если смотреть дальше, это еще раз подчеркивает то, что с точки зрения Европы, с точки зрения Запада никакая нормализация отношений с сегодняшней Россией невозможна. Это еще один шаг к тотальному разрыву с ней.

Ведь если ты считаешь сегодняшний российский режим террористическим, признаешь его спонсором терроризма, то какие тут могут быть разговоры?

Так что, это сильный шаг, но стоит посмотреть, какие у него будут последствия. Возможно, все так и останется на этом символическом уровне. А может, это станет толчком для каких-то решений, которые будут приниматься на уровне национальных правительств.

*— Исходя из опыта стран, которые ранее удостоились этого статуса, насколько эффективна эта мера? Кроме того, в этом списке есть и те, кто его со временем покинул.*

— Отмечу, что это еще и один шаг к изоляции. Ведь для тех компаний, которые все еще ведут дела с Россией, это четкий сигнал: смотрите, с кем вы сотрудничаете, это государство-террорист.

Это дополнительный прессинг в отношении тех, кто все еще рассчитывает на сотрудничество с Москвой в той или иной форме. Конечно же, это повышает давление и на Россию, и на национальные парламенты и правительства, чтобы ими принимались более жесткие решения в отношении Кремля.

Выйти из этого списка теоретически, конечно же, можно. Когда в России сменится власть, изменится политика. Но пока что это только дополнительно повышает прессинг.

Я бы здесь добавил еще один существенный момент. Тем режимам, в отношении которых раньше принимались подобные решения, было все равно. Это одиозные режимы, изгои, которые сами избрали такой путь для себя.

Все же для России это выглядит иначе. Ведь до недавнего времени она рассматривала себя в качестве части Европы, плотно сотрудничала с Евросоюзом, называла его своим партнером. До войны разговор шел о западных партнерах, а не о «коллективном Западе».

И это очень неприятная ситуация для России — когда вчерашние партнеры признают тебя террористом, сравнивают тебя с другими подобными режимами. Поэтому с ее стороны можно ожидать достаточно нервную реакцию, какие-то высказывания от Дмитрия Медведева, Марии Захаровой. Они это, безусловно, услышат и эмоционально отреагируют.

И это уже показывает, что этот выстрел Европарламента попал в цель. Я все же не считаю, что России все равно, что она готова делать все, что ей вздумается, без оглядки на мнение Запада.

У сегодняшней российской власти есть комплекс неполноценности. И им очень важно доказать, что они не хуже других, что с ними нужно вести дела. И когда сегодня террористом тебя называет не маленькая Эстония или Литва, а весь Евросоюз, то это, конечно же, больно.

*— А как эти решения могут повлиять на ближайшего союзника России — Беларусь? И какой может быть реакция белорусского режима?*

— Лукашенко, я думаю, и рад был бы отдалиться на определенную дистанцию, не складывать яйца в одну корзину, но такой возможности у него уже нет. Он слишком сильно привязан к России.

Реакция, если она последует, будет двухсторонней. Естественно, белорусские власти будут возмущаться. Мол, как такое возможно, что это все политика, происки Запада. Но про себя Лукашенко, наверное, порадуется тому, что Беларусь этот статус не получила.

Вот что для него сейчас главное. Ведь с таким статусом и репутацией дела совсем плохо выглядят.

На практике же это выглядит так: если официальный Минск продолжит тесное сотрудничество с Россией, особенно это касается участия в различных военных авантюрах Москвы, то недалек тот час, когда и Беларусь заполучит этот статус. Здесь траектория понятна.

Если вернуться к последствиям для других стран, то те из них, кто до сих пор не готов осудить Россию, но и желает сохранить хорошие отношения с Западом, вынуждены будут серьезно задуматься. Я имею ввиду и африканские государства, и некоторые постсоветские — Азербайджан, например, Армению или Казахстан.

Так как это понятное послание от Запада — этой России никаких послаблений не будет. Ведь какие могут быть компромиссы с террористом?

*— Ранее сообщалось, что Европарламент планирует признать террористической организацией ЧВК Вагнера, известную своей активностью не только на территории РФ. Это может усложнить ее деятельность вне границ России?*

— Эта компания стала публичной и известной. А те же французы, действующие в ряде стран Африки, воспринимают «вагнеровцев» своими противниками. Признание ЧВК террористической организацией усложнит ей работу в любом случае.

В той же Африке некоторые правительства пользовались ее услугами в своих целях. И часто речь не шла о преследовании интересов России, в большинстве случаев «вагнеровцы» просто зарабатывали деньги. С такой репутацией им это будет делать сложнее. Ведь европейцы оказывают поддержку африканским странам не в последнюю очередь под соусом борьбы с терроризмом. И теперь сотрудничество какого-нибудь африканского правительства с этой ЧВК будет приравниваться к содействию террористам.

Я не думаю, что это повлияет глобально на их деятельность, но сложности у них определенно возникнут. Важно другое: судьба «вагнеровцев» решается не в Африке, вопрос здесь скорее европейский, украинский. Их судьба решается в Украине.

**Сергей Василевский**
**«Филин»**

ПАДАТКІ

# АСЦЯРОЖНА! ЧАКАЕЦЦА ПАДВЫШЭННЕ ПАДАТКАЎ

**Журналісты зрабілі падборку магчымых правак па падатках, якія верагодна будуць у 2023 годзе ў Падатковым кодэксу.**



Гаворка ідзе ў тым ліку аб фіксаваным зборы для тых, хто здае ў арэнду нерухомасць, а таксама аб адзіным падатку з ІП і іншых фізічных асоб. Улады таксама хочуць павысіць стаўкі зямельнага падатку. А яшчэ — увесці падатковыя змены для тых, хто трапіў у базу «дармаедаў», а таксама з'ехаў за мяжу.

Удакладнім, што гэтыя магчымыя падатковыя змены яшчэ не прынятыя. Пры гэтым зацверджаны канчатковы варыянт правак чыноўнікаў у Падатковы кодэкс можа адрозніватца ад папярэдніх версій правак у гэты дакумент.

**Падатковыя вылікі**

У 2023 годзе хочуць пераглядзець памеры некаторых падатковых вылікаў, а таксама сумы розных выплат, якія не абкладаюцца падаходным падаткам. Да прыкладу, даходы ад дарэння, якія не абкладаюць падаходным падаткам, прапануецца падняць да 9338 руб-лёў (цяпер — 8078 рублёў). Беларусы могуць атрымаць пэўную суму ў падарунак і не плаціць з яе падаходны падатак. З сумы перавышэння трэба заплаціць падатак па стаўцы 13%, а таксама падаць падатковую дэкларацыю па выніках года.

Таксама прапануецца павялічыць падатковыя вылікі. Да прыкладу, стандартны падатковы вылік пры пэўным узроўні даходу хочуць падняць да 156 рублёў у месяц, калі даход у агульнай суме не перавышае 944 рубля ў месяц (цяпер — 135 і 817 рублёў адпаведна).

**Новыя спосабы, як сабраць грошай з «дармаедаў» і тых, хто з'ехаў за мяжу**

Чыноўнікі хочуць павысіць стаўкі консульскага збору. Да прыкладу, стаўку за разгляд заявы аб выхадзе з грамадзянства Беларусі хочуць падняць да 400 еўра (цяпер — 250 Еўра).

Плату за рэгістрацыю заключэння шлюбу, уключаючы выдачу пасведчання, плануюць падняць да 100 еўра, а скасавання — 200 еўра. Цяпер — па 50 еўра. Чыноўнікі таксама прыкметна хочуць падняць стаўку за рэгістрацыю перамены прозвішча, уласнага імя і імя па бацьку, уключаючы выдачу пасведчання — да 200 еўра. Цяпер — 70 еўра. За прастаўленне апастылю на афіцыйным дакуменце ў дыпламатычных прадстаўніцтвах і консульствах хочуць спаганяць 50 еўра замест цяперашніх 35.

Чыноўнікі таксама прыдумалі чарговыя змены для «дармаедаў», гэтым разам — падатковыя.

Фактычна можна казаць пра новы падатак, які будуць плаціць тыя, каго ўлады лічаць дармаедамі.

**Хочуць павысіць стаўкі акцызаў на алкаголь і цыгарэты**

У 2023 годзе таксама плануюць падняць стаўкі акцызаў на алкаголь і цыгарэты. Так, цяпер для першай цэнавай групы цыгарэт стаўка акцызаў складае 43,56 рубля за 1000 штук цыгарэт, а другі — 91,36 рубля.

У праекце змяненняў у Падатковы кодэкс прапісалі, што з 1 студзеня 2023 года стаўкі акцызаў для цыгарэт першай цэнавай групы хочуць падняць да 55,6 рубля, з красавіка — да 66,25 рубля, з ліпеня — да 78,97 рубля, а ў кастрычніка — да 95,59 рубля.

Для другой коштавай катэгорыі падвышэнне складзе паэтапна 107,93 рубля (са студзеня), 119,09 рубля (з красавіка), 131,38 рубля (з ліпеня), 147,03 рубля (з кастрычніка).

Гэта значыць стаўкі акцызаў на цыгарэты першай цэнавай катэгорыі могуць вырасці да кастрычніка наступнага года амаль на 120% у параўнанні з цяперашнімі, а другі — прыкладна на 61%.

Праектам правак у Падатковы кодэкс таксама прапануецца падняць стаўкі акцызаў на вадкасці для электронных сістэм — да 0,77 рубля за 1 мл. Нагадаем, з гэтага года яны складаюць 0,15 рубля за 1 мл.

*(скарочана)*

**novychas.online**

ГАНДАЛЬ

# «ПРИЕЗЖАЮТ ВОВСЕ НЕ ИЗ-ЗА ДЕФИЦИТА ТОВАРОВ»

**Экономист Лев Марголин — о том, что может к появлению пустых полок в магазинах в связи с решениями властей в последнее время.**

Глава Совета Республики Наталья Кочанова сказала журналистам, что белорусы живут хорошо, в стране нет дефицита товаров и поводов для паники. Наоборот, Лукашенко даже ставит задачу отправлять товары белорусского производства на экспорт, а приезжающие граждане стран Балтии закупаются продуктами питания в Беларуси.

— Отчасти, как ни странно, Кочанова права, — отмечает экономист Лев Марголин в экспресс-комментарии «Салідарнасці». — Оснований для каких-то панических настроений в отношении продуктов питания и товаров первой необходимости нет. По крайне мере, в Минске. Предполагаю, что и в регионах ассортиментный минимум обеспечивается.

Наверное, есть какие-то проблемы: отчасти они зависят от расторопности самих торговцев, отчасти от того, что крупные торговые сети обеспечиваются первоочередно. Но голода нет, и я уверен, его не будет. Беларусь обеспечивает себя основными продуктами на 80-90%.

При этом эксперт допускает, что может быть дефицит не основных продуктов питания, который связан в том числе с новым постановлением регулирования цен.

— Я, например, не знаю, есть ли у нас в магазинах батончики «Сникерс» или «Баунти». Но их действительно может не быть. Во-первых, потому что есть сложности с поставкой, ведь как-никак действуют санкции.

Кроме того, есть проблемы, введенные самим руководством Беларуси. Это искусственно созданные транспортные проблемы, например. А также меры, связанные с ценовым регулированием. Это первое, что может привести к сокращению ассортимента и даже появлению в перспективе пустых полок.

То есть это будет происходить не потому, что каких-то товаров нет в принципе, а потому что ими невыгодно торговать или их невыгодно производить, потому что можно попасть под административную или уголовную ответственность. То же касается и импортных товаров.

Что касается тезиса Кочановой о приезжающих на закупы граждан стран Балтии, то Марголин говорит следующее:

— Здесь, конечно, она немного лукавит. Если они и приезжают, то вовсе не из-за дефицита товаров в своих странах, а потому что у нас некоторые продукты могут быть несколько дешевле, чем у них. В странах с рыночной экономикой люди умеют считать каждую копейку.

Соответственно, ни о каком голоде там речи не идет, как и у нас. Но есть разница в ценах, как и в зарплатах. Если какие-то продукты у нас на 10-20% дешевле, то заработки у нас ниже в два раза.

**Катерина Батлейка**
**gazetaby.info**

МАП

# «АТАМНАЯ БОМБА» ДЛЯ ЭКАНОМІКІ БЕЛАРУСІ?

**Што такое ўласна МАП, яе 33 параграф, і ці так страшны чорт, як яго малююць.**



У Беларусі не засталося «адвакатаў» у працоўным руху, у чым вінаватыя ўлады, бо яны ўсіх перасаджалі ўласнымі рукамі. А ў выніку Міжнародная арганізацыя працы ўсё ж такі наважылася ўвесці ў адносінах да нашай краіны 33 параграф свайго статуту. Раней лідар Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук параўноўваў гэтае дзеянне МАП з «атамнай бомбай» у дачыненні да краіны. Праўда, такое параўнанне ўжываецца цяпер часцяком — напрыклад, да адключэнні SWIFT. Давайце разбярэмся, што такое ўласна МАП, яе 33 параграф, і ці так страшны чорт, як яго малююць.

**1. Не прафсаюз**

Міжнародную арганізацыю працы часцяком памылкова ўспрымаюць, як нейкі «сусветны прафсаюз». Насамрэч, гэта зусім не прафсаюз, а структура Арганізацыі Аб'яднаных Нацый — ААН.

Прычым, гэтая ААНаўская ўстанова, як ні дзіўна, старэйшая за саму ААН. МАП была створана ў 1919 годзе як падраздзяленне Лігі Нацый — папярэдніка ААН, і з тых часоў, нават нягледзячы на знікненне Лігі Нацый, не спыняла сваёй дзейнасці.

Вы ўяўляеце, які ў сувязі з гэтым у яе аўтарытэт?

МАП прымае Канвенцыі і рэкамендацыі, прысвечаныя пытанням працы, але наўпрост не можа прымушаць да выканання нават ратыфікаваных канвенцый. У МАП існуюць толькі механізмы кантролю за выкананнем канвенцый і рэкамендацый.

Гэты кантроль ажыццяўляецца Камітэтам экспертаў МАП па ўжыванні канвенцый і рэкамендацый, Камітэтам Адміністрацыйнага савета па свабодзе аб'яднання і Камітэтам канферэнцыі па ўжыванні канвенцый і рэкамендацый. А калі нейкая краіна доўга і паслядоўна не выконвае рэкамендацыі МАП, то МАП звяртаецца да сваіх удзельнікаў (187 дзяржаў) з «просьбай паўплываць» на «адступніка».

Такой паважанай і аўтарытэтнай арганізацыі не вельмі і адкажаш. І ў 2007 годзе за сістэматычнае парушэнне правоў прафсаюзаў Беларусь вылецела з сістэмы гандлёвых прэферэнцый Еўрапейскага саюза. Гэта пазбавіла краіну ад 100 да 300 мільёнаў долараў на год, а зроблена гэта было — на падставе ацэнак МАП.

Яшчэ раз падкрэслім: МАП — гэта не прафсаюз, а вельмі паважаная і ўплывовая структура ААН. І таму яе рашэнні амаль раўназначныя рашэнням ААН. Таму яе рашэнні, як правіла, выконваюцца.

**2. Што такое 33 параграф МАП?**

Гучыць гэты параграф прыкладна такім чынам: калі якая-небудзь краіна сістэматычна парушае правы працоўных і прафсаюзаў, то МАП мае права прымаць такія рашэнні, якія яна лічыць мэтазгоднымі ў гэтай сітуацыі.

Што гэта будуць за рашэнні — не ведае ніхто. 33 параграф МАП быў прыменены толькі адзін раз за ўсю 102-гадовую гісторыю арганізацыі ў дачыненні да М'янмы (Бірмы), дзе ваенная хунта ланцугамі прыкоўвала работнікаў да працоўнага месца. МАП з дзясятак гадоў угаворвала ваенных у М'янме змяніць гэтую практыку — і ўсё беспаспяхова.

Як казалася вышэй, МАП не можа самастойна накладаць санкцыі, або прымушаць кагосьці нешта выконваць. Але арганізацыя звярнулася да сваіх чальцоў з заклікам спыніць усялякія стасункі з урадам М'янмы.

Паважанай і ўплывовай арганізацыі ніхто не адмовіў. М'янма аказалася ў эканамічнай і палітычнай блакадзе, і хунта даволі хутка «падняла лапы ўгору». Менавіта рашэнне МАП стала пераломным момантам, якое прымусіла ваенных спачатку аднавіць правы працоўных, а потым і пачаць дэмакратычныя пераўтварэнні.

Што тычыцца Беларусі — толькі ўмяшальніцтва незалежных прафсаюзаў не дало ўвесці гэты 33 параграф у дачыненні да нашай краіны ў мінулым годзе. Замест гэтага Сінявокая ў чарговы раз была ўнесеная ў спецпараграф МАП як краіна, дзе груба парушаюцца правы прафсаюзаў.

Унясенне ўрада краіны ў спецпараграф азначае абавязак выпраўлення ўрадам канкрэтных парушэнняў Канвенцыі МАП, указаных у заўвагах Камітэта па ўжыванні нормаў Міжнароднай арганізацыі працы ва ўстаноўлены Камітэтам тэрмін.

Прычым, менавіта кіраўнік БКДП Аляксандр Ярашук настойваў на непрымяненні гэтага параграфа. «Мы, БКДП, міжнародны прафсаюзны рух, палічылі, што ўсе наступствы гэтага радыкальнага рашэння лягуць не на плечы нашай дамарослай хунты, а на плечы грамадзян краіны, у першую чаргу — працоўных. Таму мы вырашылі абмежавацца ўнясеннем Беларусі ў спецыяльны параграф МАП...», — пісаў ён тады ў фэйсбуку.

Замест таго, каб выпраўляць парушэнні Канвенцый МАП, улады пасадзілі Ярашука. І ў МАП, нарэшце, скончылася цярпенне.

**3. Што будзе пасля ўжывання 33-га параграфа адносна Беларусі?**

Самае цікавае, што наступстваў пакуль не ведае ніхто. Да сакавіка МАП павінна выпрацаваць санкцыйныя меры ў дачыненні да рэжыму Лукашэнкі, а ў чэрвені зацвердзіць іх на канферэнцыі працы.

Некаторыя сцвярджаюць, што прымяненне 33 параграфа фактычна выкрэслівае Беларусь з МАП і блакуе экспарт прадукцыі — таму гавораць пра эканамічныя санкцыі аж да эканамічнай блакады. Іншыя кажуць пра дыпламатычную ізаляцыю на міжнароднай арэне. А ёсць і тыя, хто лічыць, што ў дачыненні да Беларусі наўводзілі столькі санкцый, што прымяненне гэтага артыкула будзе мець выключна маральны эфект.

Наконт апошняга я вельмі сумняюся. Па-першае, МАП — не тая арганізацыя, якая абмяжуецца выражэннем «глыбокай заклапочанасці». Так, яна доўга ўгаворвае, але, калі размовы не дапамагаюць — б'е балюча, і гэта мы бачылі на прыкладзе М'янмы. Па-другое, на месцы ўрада я б вельмі занепакоілася менавіта той самай паўгадавой паўзай для падрыхтоўкі канкрэтных рашэнняў МАП. Гэта азначае, што будуць праанілізаваныя ўсе папярэднія санкцыі, і ўдар будзе нанесены там, дзе гэтых санкцый яшчэ няма.

Па-трэцяе, захады МАП, у адрозненне ад ужо наяўных санкцый, тычацца не толькі «краін развітых дэмакратый». У выпадку з М'янмай да санкцый далучыўся, напрыклад, Кітай. Таму, калі санкцыйныя меры ў дачыненні да Беларусі з боку МАП будуць прынятыя, іх павінны будуць выконваць усе 187 дзяржаў — чальцоў МАП. А гэта і Бразілія, і Венесуэла, і Куба, і Аб'яднаная Арабскія Эміраты, і Ісламская Рэспубліка Іран, і нават Расійская Федэрацыя.

Канешне, наконт апошняй ёсць вялікія сумневы, аднак усе астатнія наўрад ці будуць сварыцца з ААН з-за Беларусі. І ўсе разлікі ўраду на «экспартазамяшчэнне» за кошт краін «дальняй дугі» пойдуць у напрамку рускага ваеннага карабля.

Таму, хутчэй, маюць рацыю тыя, хто кажа пра «эмбарга на экспарт». Дыпламатычная ізаляцыя — таксама верагодная. І ўжо дакладна Сінявокай на бліжэйшую перспектыву давядзецца забыць пра планы ўступлення ў Сусветную гандлёвую арганізацыю.

Санкцыі МАП — «атамная бомба» для эканомікі? Цалкам мажліва. Але што будзе канкрэтна, мы даведаемся праз паўгода.

**Таццяна Лісічэнка**
**novychas.online**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы. E-mail: alex81852@gmail.com Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 30.11.2022 у 16.18**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.